# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 1 (197) (студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
novychas.online/tags/litaraturnaja-belarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест


**ПОВЯЗЬ:** драматург-беларус Парыжа: Аўген КАВАЛЕЎСКІ ...... с. 2
**ГІСТОРЫІ:** артыкул Алены ДАРАФЕЕВАЙ «Заканадаўца нораваў і густаў» пра шведскія прыгоды Сэльмы ЛАГЕРЛЁФ ...... с. 3
**ПРОЗА:** аповеды з нізкі «Калядны вечар» Уладзіміра СЦЯПАНА ...... с. 4
**ПАЭЗІЯ:** гронка вершаў Васіля ЗУЁНКА «Дрэва будучыні» ...... с. 5
**ЗГАДКІ:** векапомныя «Першыя пяць радкоў» Ірыны ЖАРНАСЕК ...... с. 6, 7
**ПАЭЗІЯ:** нізкі вершаў «Душа прасіла міру» Ірыны ЛЯШКЕВІЧ і «Змена парадыгмы» Валянціны ОСІПАВАЙ ...... с. 8
**ПРОЗА:** апавядальная прыпавесць Янкі ТРАЦЯКА «Белы конь» ...... с. 9
**НАРЫС:** «З гліны, веры, крыві» — Ала НІКІФОРСКАЯ пра Юрку ГОЛУБА ...... с. 10, 11
**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа ...... с. 12


# Снег

## Фрагмент аповесці



Галіна САМОЙЛА

Слёзы ка́палі на снег, і ён ператвараў іх у малюсенькія лядзяшыкі. Сонца рассыпала па снезе мільярды іскрыстых усмешак. Мая душа ўсміхалася ім у адказ, бо я плакала не ад гора і не ад крыўды. Ад таго расчулілася, што мне паспачувалі.

Ішла да прыпынку на ўскрайку вялікай вёскі ў прыгарадзе Гродна. Прыехала сюды па аб'яве пра магчымае працаўладкаванне ў невялікую прыватную мэблевую фірму. Дырэктар прадпрыемства ацаніў мае магчымасці так: «Па вас відаць, што будзеце старацца, але ў вас не будзе атрымлівацца. Вам лепш займацца разумовай працай». Я прамаўчала пра тое, што настаўнічаць я больш не магу, што ні ў якую мясцовую рэдакцыю карэктарам мяне не ўзялі, што ў бібліятэцы для мяне замалая зарплата, бо ад былога мужа на выхаванне двух сыноў-школьнікаў не атрымліваю нічога, што не ведаю, якая яшчэ разумовая праца можа быць у філолага. Навязалася сказаць «Да пабачэння» і рушыць да дзвярэй. Але пранікнёнасць дырэктара на першым назіранні не закончылася. Ён прамовіў:

— У вас, напэўна, ёсць дзеці.

— Ёсць, два сыны.

— А вы, прабачце, адна іх выхоўваеце?

— Адна.

— Даруйце, што я нічым не магу вам дапамагчы. Але мы можам узяць на працу вашага сына. Няхай прыходзіць пасля школы, і мы тут вызначым, ці здольны ён да нашай вытворчасці.

Мне было адмоўлена так па-чалавечы… А на чалавечнасць у мяне аўтаматычная рэакцыя — слёзы. Яны пачалі імкліва паднімацца з душы да вачэй, і я хуценька падзякавала за сына і развіталася, каб не расплакацца перад дырэктарам.

У цэх падсобнай гаспадаркі на прадпрыемстве «Гродна Азот» мяне не хацелі браць з той жа прычыны: «Не справіцеся, вялікія фізічныя нагрузкі». Я меркавала, што на некалькі гадоў мяне хопіць: я ж з вёскі і пра ўсё, што мне давядзецца рабіць у гэтым цэху, добра ведаю. Таму настойліва хадзіла то да начальніка падсобнага цэха, куды мяне пасылаў загадчык аддзела кадраў, то да загадчыка аддзела кадраў, куды мяне пасылаў начальнік падсобнага цэха. Нарэшце загадчык аддзела кадраў здаўся: «Ладна, афармлю вас, раз вы ўсё ходзіце і ходзіце. Але Здановіч (начальнік цэха) вас выгане, калі вы не справіцеся». На грубасць, абразлівасць у мяне аўтаматычная рэакцыя — упартасць, таму з гэтага моманту я ўжо дакладна ведала, што або спраўлюся, або памру на працоўным месцы. Так атрымала я чарговы запіс у працоўную кніжку аб новай для сябе пасадзе з прыгожай назвай — «рабочая зялёнага будаўніцтва».

А зіма разлютавалася так, нібы мой Лёс спецыяльна перанёс яе з майго вясковага заснежанага дзяцінства ў маю гарадскую амаль бяссснежную дарослацць, каб мяне выпрабаваць. Снегу намятала мне па грудзі, і мы, брыгада з шасці жанчын, павінны былі вызваляць ад яго дарожкі на прыазотаўскай тэрыторыі, у так званай санітарнай зоне. Нам на дапамогу далі мужчын-касцоў, якія летам сачылі за ўзроўнем травы на газонах, а зімой накіроўваліся на «розныя работы». Працаваць з намі касцам не падабалася, і яны агучылі, чаму: «Гэтыя бабы ачышчаюць дарожак менш за нас, а грошы атрымліваюць такія ж самыя». Каб падагнаць працу да грошай, яны вызначылі для сябе «нормы» і перыядычна паседжвалі ў бытоўцы.

А мароз усё кусаецца і кусаецца. А снег усё падае і падае…



Фота fotokto.ru

…Я снег чышчу. Лапату са снегам трымаю справа налева, і асноўная вага прыпадае на левую руку. Рука нічога сабе, трымаецца, а пачало балець недзе між рэбрамі злева. Тўга абмотваюся вялікай хусткай і працягваю чысціць снег. Жанчыны кажуць, што за мяккі пушысты снег я яшчэ падзякую цяперашняй зіме. А вось калі здарыцца адліга і ён набрыняе ды закамянее — вось тады сапраўды лапату з ім як падняць.

Чысціць снег мне дапамагаюць двое мужчын — Пеця і Ваня. Пецю трохі за трыццаць. Калі ён прыйшоў з «касцамі» на дапамогу да нас, то ўсё паглядаў на мяне неяк змрочна. Я не пацікавілася ў Пеці аб прычыне ягоных позіркаў. І тады ён загаварыў сам:

— Вы мяне не памятаеце, не пазнаеце…

— А чаму я павінна вас пазнаць, малады чалавек? — здзівілася я.

— Вы былі маёй выхавацельніцай у дзіцячым садзе. Я вас адразу пазнаў.

— Гэта прыемна, значыць, я яшчэ не вельмі змянілася, — засмяялася я. — А цябе пазнаць немагчыма, бо ты вельмі змяніўся. Хто ты?

— Нашто вам? Вы ж не памятаеце…

— Я ўсіх вас памятаю, але толькі такімі, якімі вы былі ў дзіцячым садзе. У мяне і фотаздымак нашай групы ёсць. Я люблю яго разглядаць. Дык хто ты?

— Пеця Васільеў.

— А-а-а… Пеця! Вельмі добра цябе памятаю таго, маленькага…

— Вы білі мяне шапкай па галаве ў раздзявалцы за тое, што я марудна апранаўся, — тужліва сказаў Пеця.

— І ты да гэтага часу крыўдзішся… Прабач мне, Пеця, калі ласка. Я тады многага яшчэ не разумела.

Пеця мне прабачыў, і кожны дзень цяпер дзяўбе лёд і чысціць снег на маім участку. Робіць усё гэта ён па-ранейшаму вельмі марудна. Але я ўжо не падганяю яго, а толькі дзякую яму ўсмешкамі і словамі.

Ваню недзе за сорак. З першага ж дня нашай агульнай працы яго не напружыў той факт, што я адкідваю снегу меней, чым ён. У бытоўку з іншымі мужчынамі ён не пайшоў, а застаўся чысціць ад снегу разам са мною «мае» дарожкі. Трохі пагутарыўшы падчас перадыху, мы выявілі, што абодва наведвалі школу крыя-йогі «Мастацтва жыцця», што Ваніна жонка таксама педагог, дэфектолаг, і яе вучні — цяжкія дзеткі, але ж «нехта і з такімі дзеткамі павінен займацца». Да нас прыйшла аднолькавая думка, і мы агучылі яе адзін другому: што гэта Бог зрабіў так, каб дзве падобныя душы пазналі адна адну. Я была толькі на базавым курсе «Мастацтва жыцця», а Ваня наведваў і падоўжаныя, таму менавіта яго душа першай пазнала маю і пачала мне дапамагаць.

Я мару, каб мне хапіла здароўя хаця б на гадоў пяць даглядаць азотаўскую санзону, бо за гэта мне будуць налічваць нядрэнную зарплату і я забяспечу ўсім неабходным сябе і сваіх сыноў. А там, глядзіш, і яны пачнуць працаваць. А яшчэ я мару пра тое, каб хто-небудзь добры і мудры ўсё праясніў мне пра мяне і мой лёс, бо і ў сабе, і ў лёсе сваім я заблыталася: ніяк не магу зразумець, чаму я сваім жыццём зусім не кірую, а яно кіруе мною, не ўлічваючы маіх жаданняў і мараў.

# Драматург-беларус Парыжа: Аўген Кавалеўскі

***...Сонечная лістападаўская восень 1955 года. Сталічная французская «Salle Iena». Рознанацыянальная публіка — узрушаная, задуменная, радасная, — на прэм’еры спектакля па п’есе беларускага драматурга Аўгена Кавалеўскага. Драма называлася «Асуджаныя». Паставіў спектакль і выконваў у ім адну з галоўных роляў сам аўтар...***


Аўген Кавалеўскі

Аўген Кавалеўскі з’явіўся на свет у свята праваслаўнага Раства — 7 студзеня — у 1921 годзе ў Маскве. Бацькі неўзабаве вярнуліся ў Менск, дзе Аўген стаў выхаванцам дзіцячага садка, якім апекавалася жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Затым А. Кавалеўскі скончыў сярэднюю школу і... стаў сіратой. У тым «паспрыяла» бальшавіцкая ўлада: знішчыла — як нацдэма — бацьку, выхадца з Заходняй Беларусі.

Таленавітага юнака падтрымаў вядомы акцёр і рэжысёр Еўсцігней Міровіч (1878—1952) і накіраваў у тэатральную школу пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры.

Вайна зблытала ўсе планы і спадзяванні. «Падчас вайны наш дом згарэў, — успамінáў (у лісце да аўтара гэтага артыкула. — *Рэд.*) малодшы брат пісьменніка Раман Кавалеўскі. — Аўгена тады дома не было... усё згарэла. Мы з мамаю выскачылі на вуліцу і не пасьпелі што-колечы ўратаваць. Пасьля пажару мы перабраліся на Кастрычніцкую вуліцу. У нас зьбіраліся артысты, пісьменнікі... У Аўгена была мэта барацьбы за незалежную Беларусь».

У 1944 годзе А. Кавалеўскі падаўся ў паязджанства. У Нямеччыне арганізаваў Тэатр эстрады, апантана працаваў, пісаў п’есы, апавяданні, аповесці, публіцыстычныя артыкулы, склаў падручнік для Тэатральнай студыі.

«Калі немцы адступалі, Аўгена з намі не было, — згадваў яго брат Раман. — Ён быў высланы ў паездку і апынуўся ў Нямеччыне. І мы яго спаткалі ўжо у Баварыі. Калі мы з мамаю апынуліся ў Нямеччыне, мы Аўгена не бачылі і спаткалі ў канцы вайны... Ён быў з артыстамі. Яны разьязджалі па ўсёй Нямеччыне: па лагерох, дзе знаходзіліся нашы землякі, пад уладаю амерыканцаў, якія многа дапамагалі... І так прадаўжалася аж да 1948 году... Прыйшоў час, калі амерыканцы зачалі прапаноўваць (Чырвоны Крыж) выязджаць па іншых краінах. Аўген вырашыў выехаць у Францыю».

Аўген Кавалеўскі ўваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Шыпшына», быў актывістам Беларускай незалежнай арганізацыі моладзі (на яе другім з’ездзе абраны сакратаром), працаваў у парыжскім кравецкім атэлье і дзякуючы сваёй мастакоўскай фантазіі ды густу стварыў таленавітыя эскізы моды. І... пісаў.

Ён спрабаваў сябе ў розных літаратурных жанрах і актыўна друкаваўся ў эміграцкіх выданнях: часопісах «Сакавік», «Наперад!», «Напагатове», «Моладзь» ды інш. Так, у 1946 годзе ў часопісе «Напагатове» з працягам публікавалася яго прыгодніцкая аповесць для падлеткаў «Таямніцы замчышча».

Адзін з першых апублікаваных драматургічных твораў А. Кавалеўскага — «драматычны этуд» «Навагодні госьць» («Сакавік», 1948, №1 (2)). Гэта сентыментальны расповед пра адзін эпізод з жыцця так званых дэпістаў («перамешчаных асобаў»). Маладая жанчына Галіна Свірская засталася адна з малой дачкой. На сустрэчы Новага года яна прымае прапанову Алеся Зеляновіча «ісьці разам у туман», сустракае параненага мужа — і напачатку не пазнае яго, зноў страчвае.

«Навагодні госьць» А. Кавалеўскага стаў адным з узораў «актуальнай» драматургіі, якая, аперагуючы вывучыўшы «попыт» суполкі беларускіх паязджанаў, імкнулася найперш асвятляць іх надзённыя праблемы, адлюстроўваць тыповае і характэрнае ў іхнім жыцці.

Большае канцэптуальнае паглыбленне ў драматургічную стыхію выявіла напісаная А. Кавалеўскім трагедыя «Ліхадзейка» (1948). П’еса ўзнаўляе адзін з тыповых эпізодаў гісторыі Беларусі пачатку XIX стагоддзя. У цэнтры сюжэтных калізій трагедыі — лёс прыгоннага селяніна, самавука-паэта Рыгора і сям’і памешчыцы Уладзіслаўскай. Яе дачка Канстанцыя, якой падрыхтаваны багаты жаніх Галінскі, закаханая ў Рыгора. Рыгор, у сваю чаргу, любіць сялянскую дзяўчыну Марысю. А. Кавалеўскі імкнецца выпісаць характары сваіх герояў на фоне бурлівых і трагічных падзей: сялянскага бунту супраць дэспатыі Уладзіслаўскай, які ачоліў Рыгор. У фінале трагічна гінуць і Рыгор, і Марыся, і Канстанцыя...

Паралельна з п’есамі зноў пісаліся празаічныя тэксты. Зрэшты, у творчасці А. Кавалеўскага проза пералівалася ў драматургію, а драматургічныя асновы (дыялогавасць, дынамічнасць, сюжэтная закальцаванасць і пад.) выяўляліся ў апавяданнях, аповесцях.

У часопісе «Шыпшына» (1948, №2) было апублікавана апавяданне А. Кавалеўскага «Алеся» — лірычна-ўзнёслы эцюд-згадка пра страчанае каханне, напісаны, відавочна, пад уплывам вядомай «Олеси» А. Куприна. Апавяданне вызначаецца жывапісным, каларытнай мовай, імпульсіўнасцю празаічнага (часам метрычна-зарганізаванага) радка. Напрыканцы, як падрахаванне, што выбіваецца з агульнага летуценна-мройнага аповеду, уведзена аўтабіяграфічная згадка: «Нечакана, раптоўна, як тая навальніца, грымнула вайна. Захлынула мяне, закруціла ў сваім жудасным віры, доўга насіла з аднаго мейсца на другое <...> і ўрэшце выкінула на далёкую чужыну як нікому непатрэбную трэску на хвалях».


Падчас рэпетыцыі

У №19 часопіса «Наперад!» (1949) была змешчана навела А. Кавалеўскага «Першы подых», у №21 (1950) — апавяданне для дзяцей «Калека».

А. Кавалеўскі актыўна ствараў і невялікія камедыйныя вадэвілі, якія ставіліся на эміграцыйных сцэнах Нямеччыны і Францыі. Эпізод з жыцця ў лагеры бежанцаў асветлены ў гратэскава-камічным вадэвілі «Госці з Тунісу». Два кемлівыя хлопцы-беларусы, якія атрымалі «матуру», пераапрануліся ў вярбоўшчыкаў-тунісцаў і насміхаюцца са сквапнасці ўдавы Зосі, цёткі сваёй сяброўкі...

Сцэны перадвясельных залётаў і сватання сталі традыцыйнымі і тыповымі ў беларускай драматургіі (творы В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца, Янкі Купалы). Яны адгукаліся і ў камедыяграфіі А. Кавалеўскага. Яскравы прыклад — вадэвіль «Нечаканыя заручыны», жартоўнае дзейства якога пабудавана на аснове «любоўнага трохкутніка» Васіль — Насця — Халімон Падцярушкін. Арганічна ў тэкст уплятаюцца «песенныя партыі» герояў вадэвіля.

Спакваля малады пісьменнік падыходзіў да ўвасаблення вяярска-гістарычнай тэматыкі — асноўнай у яго прозе. Як накід да нечага больш маштабнага ўспрымаецца яго абразок «Паміраючы сокал» («Баявая ўскалось», 1949, №1), дзе ў рамантычным арэоле апісана смерць беларускага жаўнера. Названай тэматыцы прысвечаны і «драматычны абраз з часоў Слуцкага паўстання» «Случчакі», апублікаваны ў часопісе «Моладзь» (1949, № 9). У аснове «Случчакоў» — вядомая гістарычная падзея нацыянальна-вызвольнага руху, якая на эміграцыі ўважалася найбольш яскравым выяўленнем народнай сілы, мужнасці, імкнення да незалежнасці. А. Кавалеўскі паказвае адзін эпізод змагання: сутычку партызанскага аддзела з чырвонаармейскім палком. Кульмінацыя — сустрэча родных братоў Багуноў, адзін з якіх — палітказмісар, другі — партызанскі камандзір. У выніку брат забівае брата.

Больш самабытна, чым у «Случчаках», у якіх аўтар не змог пазбегнуць ілюстрацыйнасці, зместавай зададзенасці, пісьменніцкія здольнасці А. Кавалеўскага адлюстраваліся ў аповесці «Людзі ў полымі», якую на працягу трох гадоў друкаваў часопіс «Моладзь» (з №4 за 1948 год па №18 за 1950-ы). Аповесць, якая сваёй назвай асацыятыўна лучыцца з пазнейшымі Мележаўскімі «Людзьмі на балоце» (як два архетыпічныя хранатопы: «людзі ў агні» і «людзі ў вадзе»), мае дзве асноўныя сюжэтныя лініі: жыццё свядомай беларускай моладзі ў часе панавання бальшавіцка-сталінскай ідэалогіі (найбольш каларытныя персанажы — Пятрусь Турэвіч, Мікола і Вера Сіняўскія) і «дзейнасць» уладнага актыву (сакратара райкама ВЛКСМ Максіма Івашчыка, сына папа, які пасля сутычкі з прадстаўніком ЦК партыі гіне ў дрыгве; начальніка раённага НКУС Сямючэнкі ды інш.).

Аповесць А. Кавалеўскага «Людзі ў полымі» запамінаецца энергічным разгортваннем падзейных калізій, займальна-прыгодніцкім характарам, добра распрацаванымі ў псіхалагічным плане паасобнымі сцэнамі, — як, да прыкладу, эпізод пра спробу самагубства Максіма Івашчыка, калі той разглядваў сваё адлюстраванне:

«Ён падышоў да вялікага, мала не на палову сьцяны люстэрка ў пазалочанай раме, што стаяла за канапаю, і, любуючыся сваім выглядам, з «браўнінгам» у руках, прагаварыў яшчэ раз і галасьней:

— Я на ўсё здольны!

Але праз якую хвіліну, калі добра прыглядзеўся да свайго адлюстраваньня, ён ужо ня мог гэтага сказаць — рашучасць пакінула яго, і замяж яе ў люстэрку пацямнеў спалоханы твар, ізноў апусьціліся бязвольна рукі<...>. Ён глядзеў на сваё адлюстраваньне доўга, уважна, быццам бы ніколі перад гэтым ня бачыў сябе ў люстэрку. <...> і шырокі, заплыўшы тлушчам твар з падвойным падбародкам, і вузкія прарэзы вачэй, <...> і нос, маленькі, як бы сплясканы, і вусны таўстыя, чырвоныя, як у якой маладухі, і пасмы рэдкіх валасоў, апаўшых на вузкі лоб. Але, адначасна з гэтым, Івашчык пабачыў на сваім твары нешта новае, чаго раней не заўважаў: яму здалося, што ён на сваё маладыя гады ўжо занадта стары, бо павялічыліся мяхі пад вачыма, закругліліся зморшчыны ля вуснаў, парадзелі валасы — і ад гэтага жаль да самога сябе, жаль да свайго маладога жыцьця <...> гэтак расчуліў ягонае сэрца, што ў ягоных вачох міжвольна зьявіліся сьлёзы<...>».

Празаічныя спробы А. Кавалеўскага станавіліся найперш сведчаннямі зацікаўленасці маладой беларускай літаратурай 40-х — пачатку 50-х гадоў гістарычнай праблематыкай, прычым праблематыка тая мела «прыкладны» характар: высвечвала і канцэптуалізавала найперш яе ваярскі зрэз, праз такі зместавы аспект актуалізуючы нацыянальную ідэю і заклікаючы да самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне, не бачачы па-за гэтым перспектывы свайго і дзяржаўнага існавання.

...Сёння ў тое і не верыцца: названыя і незгаданыя п’есы Аўгена Кавалеўскага ставіліся па-беларуску на сцэнах Парыжа. Вось як аб тым успамінала (у лісце да аўтара гэтага артыкула. — *Рэд.*) удава драматурга спадарыня Валянціна Міцура-Кавалеўская (яны пазнаёміліся, «перапісваючыся», у снежні 1948 года):

«...у Парыжы, у 1949 годзе, канцэрт прайшоў з вялікім посьпехам. Зала была перапоўненая. Граліся таксама скечы і вадэвілі, часта Аўген арганізоўваў беларускія вечары. Так прадаўжалася некалькі гадоў. Пазнаёміўся ён з расейскімі акторамі, удзельнічаў у іх спектаклях. Па іхняй просьбе напісаў аповесьць пра эміграцыю «Обречённые» і «Встреча».

Калі мы паслалі нашых дзяцей да скаўтаў «Норс», яго там прасілі занянца маладымі дзяўчатамі і хлопцамі. Там ён і памёр трагічна, пад мейсцам Royan, і ён пахаваны там.

Аўген марыў і верыў, што ён вернецца на Бацькаўшчыну, каб прадоўжыць сваю працу. На жаль, для яго жыцьцё скончылася ў 42 гады...».

Адбылося тое 13 жніўня 1963-га...

Руаян — цяпер камуна ў рэгіёне Пуату-Шарант на захадзе Францыі. Яна размешчана ў вусці Жыронды — эстуарыя рэчак Гаронна і Дардонь, якія бягуць у Атлантычны акіян. На поўдзень ад Жыронды пачынаецца Срэбны бераг...

Руаян упрыгожваюць пясчаныя бухты, пляжы, невялікая гавань і рачны порт. А таксама — і памяць пра творчага беларуса-паязджаніна...

***А. А.***

# «Заканадаўца нораваў і густаў»

## Шведскія прыгоды Сэльмы ЛАГЕРЛЁФ

Алена ДАРАФЕЕВА

***Сэльма Лагерлёф (1858—1940) — вядомая шведская пісьменніца, першая жанчына, якая ў 1909 годзе атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, — «як даніну высокаму ідэалізму, яскраваму ўяўленню і духоўнаму пранікненню, якімі вызначаюцца ўсе яе творы».***

### Райская птушка

Сэльма Атылія Лувіса Лагерлёф нарадзілася ў сядзібе Марбакка ў шведскай правінцыі Вермланд. Бацька — адстаўны вайсковец, маці — настаўніца, у сям'і было шасцёра дзяцей. Маляўнічая прырода Вермланда, казкі і паданні, расказаныя бабуляй і цёткай, — усё гэта сфармавала ўнутраны свет дзяўчынкі. У трохгадовым узросце ў Сэльмы здарыўся параліч, і яна аказалася прыкаванай да ложка. Родныя акружылі яе клопатам, любоўю, чароўнымі гісторыямі і кнігамі. Яна вельмі рана навучылася чытаць, а потым пачала складаць уласныя гісторыі і вершы.

Сэльма заўсёды верыла ў цуды. Калі дзяўчынцы было дзесяць гадоў, яе бацька вельмі цяжка захварэў. Яна вырашыла прачытаць усю Біблію ў надзеі, што Бог пашле яму выздараўленне. Эрык Густаў Лагерлёф сапраўды паправіўся і пражыў яшчэ сямнаццаць гадоў.

Гісторыя яе ўласнага выздараўлення, расказаная пісьменніцай у аўтабіяграфіі «Марбакка» (1922), таксама незвычайна характэрная. Аднойчы ўлетку, калі сям'я Лагерлёф адпачывала на моры, да берага прычаліў карабель, на якім, як казалі, жыла нейкая райская птушка. Усе пайшлі паглядзець на яе. Не ведаючы, што дзяўчынка паралізаваная, юнга прапанаваў ёй спусціцца ў трум, дзе знаходзілася клетка. Сэльма пайшла за ім, не задумваючыся, а ўбачыўшы птушку, узлезла на крэсла, каб як след яе разгледзець. І толькі калі ў трум спусціліся сваякі, стала зразумела, што дзяўчынка ачуняла: «Як жа ўсе ўзрадаваліся! Мэта паездкі дасягнута, дарагая задума не прайшла дарма! Малая будзе не бездапаможнай нішчаснай калекай, а нармальным, паўнавартасным чалавекам» (С. Лагерлёф, «Марбакка»).

Аднак у афіцыйных біяграфіях пісьменніцы згадваецца толькі лячэнне ў спецыялізаванай стакгольмскай клініцы і сцвярджаецца, што менавіта там да Сэльмы вярнулася здольнасць хадзіць. Праўда, невялікая кульгавасць суправаджала яе да канца жыцця, з-за чаго яна карысталася кійком. Магчыма, эпізод з райскай птушкай быў толькі дзіцячай марай ці прыгожай фантазіяй казачніцы. У аўтабіяграфіі Лагерлёф адзначала, што дарослыя дзякавалі паветру, мору і купанню, якія спрыялі акрыянню, а сваёй здагадкай яна ні з кім не падзялілася.


Фота wikipedia.org

Сэльма Лагерлёф

### Настаўніца стала вядомай пісьменніцай

У 1881 годзе, насуперак волі бацькі, Сэльма паехала ў Стакгольм і паступіла ў ліцэй, а затым у Вышэйшую педагагічную семінарыю. Дыплом дазволіў ёй заняць пасаду настаўніцы пачатковай школы для дзяўчынак у маленькім мястэчку Ландскруна на поўдні Швецыі. Лагерлёф жыла ў мансардным паверсе школы. Яна палюбіла гэтую працу і сваіх вучаніц, але ў душы ніколі не пакідала мару стаць пісьменніцай.

У гэтыя гады адбыліся сумныя падзеі: у 1885 годзе памёр бацька Сэльмы, а праз тры гады Марбакка была прададзена за даўгі. Перажыванні прымусілі Лагерлёф вярнуцца да гісторыі, якую яна пачала пісаць яшчэ ў семінарыі. Дэбютны раман — «Сага пра Ёста Берлінга» — перамог у конкурсе часопіса «Idun» і быў выдадзены ў 1891 годзе.

Праз чатыры гады Сэльма Лагерлёф пакінула школу і цалкам прысвяціла сябе літаратуры. Яна здзейсніла некалькі падарожжаў па Еўропе, Егіпце, Палестыне. У канцы 1880-х пачатку 1890-х гадоў выходзяць яе раманы «Цуды Антыхрыста» (1897), «Іерусалім» (1902), «Грошы спадара Арнэ» (1904), зборнік апавяданняў «Легенды пра Хрыста» (1904). Сэльма Лагерлёф стала вядомай пісьменніцай.

### Падручнік па геаграфіі ці чароўная казка?

Самай папулярнай кнігай Сэльмы Лагерлёф з'яўляецца двухтомная эпапея «Дзіўнае падарожжа Нільса Хольгерсана па Швецыі» (1906–1907), першапачаткова задуманая як захапляльны навучальны дапаможнік па геаграфіі Швецыі для першакласнікаў.

У 1904 годзе кіраўнік Усеагульнага саюза настаўнікаў народных школ Швецыі Альфрэд Далін, адзін з перадавых педагогаў і асветнікаў свайго часу, прапанаваў Сэльме Лагерлёф перапрацаваць тэкст падручніка 1868 года, які ўжо састарэў. А. Далін хацеў стварыць серыю новых, актуальных навучальных дапаможнікаў, падключыўшы да ўдзелу ў праекце не толькі выкладчыкаў, але таксама вядомых пісьменнікаў, журналістаў, дзеячаў культуры. Сэльма Лагерлёф падышла да справы вельмі сур'ёзна: вывучыўшы матэрыял старога падручніка, яна ўзялася за навуковыя крыніцы — кнігі па геаграфіі, геалогіі, батаніцы, заалогіі, гісторыі, фалькларыстыцы. Затым здзейсніла вялікае падарожжа па Швецыі, наведаўшы гістарычныя правінцыі і знакавыя месцы, у тым ліку вядомы медны руднік у Фалуне. Самым цяжкім было прыдумаць арыгінальны сюжэт. Лагерлёф пісала, што чэрпала натхненне ў «Маўглі» Р. Кіплінга, казцы «Невядомы рай» Р. Густафсана, аповесці «Падарожжа Шчаслівчыка Пяра» А. Стрындберга.

Аднак канчаткова задума кнігі склалася, калі пісьменніца прыехала ў Вермланд, у родную сядзібу Марбакка. Там яна ўспомніла некаторыя эпізоды свайго дзяцінства, у тым ліку гісторыю пра хатняга гуся, які аднойчы ўвесну паляцеў разам з дзікімі пералётнымі сродзічамі. Увосень ён вярнуўся дадому з дзікай гусыняй і гусянятамі, але злосная гаспадыня зарэзала ўсё сямейства. Гэта і стала асноўным сюжэтаўтваральным матывам. Найважнейшым складнікам кнігі стаў матыў перараджэння героя — з эгаістычнага капрызнага хлопчыка ў чалавека, які ўмее разумець і суперажываць чужым няшчасцям і радасцям, гатовага аддаць сваё жыццё дзеля выратавання сябра. З вандравання Нільс вяртаецца сапраўдным чалавекам.

Падарожжа хлопчыка на спіне гусака адкрывала для пісьменніцы неверагодныя магчымасці. Яна магла паказаць сваім чытачам літаральна ўсю Швецыю: непаўторнае аблічча і гісторыю яе правінцый і гарадоў, рэк і азёр, астравоў і шхер, гор і лясоў, маёнткаў, замкаў і сабораў, а таксама сельскую і лясную гаспадарку, прамысловасць кожнай вобласці. Дарэчы, у кнізе няма ніводнага прыдуманага наймення, назвы рачулкі або хутара, сярэднявечнага замка або цукровага завода. Падрабязна паказаны побыт сельскіх жыхароў, прылады іх працы, уладкаванне жылля.

У «Дзіўным падарожжы Нільса…» знайшоў сваё адлюстраванне і зусім іншы, нематэрыяльны свет. Гэта шведскія народныя легенды і паданні, традыцыі і святы: Дзень святой Люсіі і святога Марціна, Вальпургіева ноч, калядныя звычаі, паданні пра таямнічы патанулы горад Вінета і пра гіганцкі камень Маглестэн, легенда «Рог і дудачка з Юнгбю», казачныя лесавікі, тролі і гномы.




Першае шведскае выданне «Дзіўнага падарожжа Нільса...»

Асобным героем кнігі стала прырода Швецыі: расліны і жывёлы, краявіды, ландшафт і клімат краіны. Сэльма Лагерлёф адкрыла чытачу яркі, адушаўлёны свет прыроды, шмат у чым натхнёны народнымі паданнямі. Так, рэкі і азёры жывуць сваім уласным жыццём: часам яны выпраменьваюць прыгажосць і гармонію, а часам — небяспеку стыхіі. Асабліва падрабязна, часам з дакладнасцю арнітолага, яна апісвае птушак: разнастайнасць іх відаў, умовы пасялення, аж да драбнютких дэталяў.

Аднак спачатку кніга падвяргалася нападкам з боку некаторых шведскіх навукоўцаў, географаў і заолагаў, якія вінавацілі пісьменніцу ў памылках і некаторых фантастычных дапушчэннях. Бо гэта быў не проста мастацкі твор, а навучальны дапаможнік для школьнікаў. Але, нягледзячы на гарачыя спрэчкі крытыкаў, «Дзіўнае падарожжа Нільса…» неўзабаве пасля публікацыі ўсё ж з'явілася ў шведскіх школах, і дзеці прынялі кнігу з захапленнем. Сэльма Лагерлёф была літаральна завалена лістамі ад удзячных чытачоў, кожнаму з якіх старалася адказаць.


Фота wikipedia.org

Сядзіба Марбакка

### Нобелеўская прэмія, вяртанне роднага маёнтка і апошнія гады

У 1907 годзе Лагерлёф абралі ганаровым доктарам Упсальскага ўніверсітэта, а ў 1909-м ёй была прысуджана Нобелеўская прэмія па літаратуры. Яна стала першай жанчынай, якая атрымала гэтую высокую літаратурную ўзнагароду. У сваёй прамове на ўручэнні прэміі адзін з чальцоў Шведскай акадэміі, гісторык Клас Анэрстэдт, назваў Сэльму Лагерлёф «заканадаўцай нораваў і казачніцай», здольнай вярнуць Швецыі яе былую славу шляхам адраджэння ідэалаў і высокай маральнасці, а не дзякуючы ваенным подзвігам.

На грошы Нобелеўскай прэміі Лагерлёф выкупіла сельскагаспадарчыя землі і лес, якія прылягалі да дома ў Марбакку (сам дом яна купіла яшчэ ў 1907 годзе). У 1914-м яна першай з жанчын увайшла ў склад Шведскай акадэміі.

Аднавіўшы гаспадарку і пабудаваўшы новы дом, Лагерлёф пражыла ў любімым маёнтку Марбакка ўсё астатняе жыццё. Тут былі напісаны раман «Імператар Партугальскі» (1914), знакамітая трылогія пра Лёвеншольдаў («Пярсцёнак Лёвеншольдаў» (1925), «Шарлота Лёвеншольд» (1925) і «Ганна Сверд» (1928)), а таксама тры кнігі мемуараў: «Марбакка» (1922), «Запіскі дзіцяці» (1930) і «Дзённік Сэльмы Атыліі Лавісы Лагерлёф» (1932).

На пачатку Зімняй вайны пісьменніца ахвяравала свой Нобелеўскі залаты медаль Шведскаму нацыянальнаму фонду дапамогі Фінляндыі (аднак урад знайшоў неабходныя сродкі іншым спосабам, і медаль быў вернуты). У 1940 годзе, за год да смерці, Лагерлёф дапамагла аформіць шведскую візу нямецкай паэтцы яўрэйскага паходжання Нэлі Закс (якая пазней, у 1966 годзе, таксама атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры) і яе маці, што выратавала іх ад нацысцкіх лагераў смерці.

Сэльма Лагерлёф памерла ва ўзросце 81 год ад перытаніту ў сваім родным маёнтку Марбакка.

# Калядны вечар



Уладзімір СЦЯПАН



Фота vjoy.cc

## Званок

Сяджу на доўгай лаве побач з баскетбольным шчытом. Вецер хістае рэшткі сеткі, а ў вокнах аднапавярховай школы плывуць белыя аблокі. Пахне глінай, цэглай, пілаваннем і будаўнічым друзам... Будоўля бязлюдная — сёння нядзеля. У што перарабляюць школу — не ведаю.

Падхопліваюся, азіраюся, падскокваю і лаўлю цяжкі баскетбольны мячык. Не, ён не шурпаты, бо пупырышкі сцёрліся аб асфальт баскетбольнай пляцоўкі. Але мячык добра падскоквае і я прыгінаюся, гупаю ім і бягу па краі пляцоўкі, амаль па самай нябачнай лініі, абводжу Віцьку, потым даю нырца пад руку Сяргея, а перад Толікам, ведаю, яго прайсці не атрымаецца, спыняюся. Гляджу яму ў вочы, падскокваю і аберуч кідаю мячык у шчыт... Толік Купрыч памёр ад сухотаў, калі вярнуўся з турмы... Сяргея Маскалевіча забілі на шабашцы ў Расіі... Віцька Тузевіч павесіўся ў гаражы, бо не хацеў пакутваць...

Запыханы вяртаюся на сваё месца і думаю, — добра што мяне ніхто не бачыў... Сур'ёзны мужчына, а бегае па пустой пляцоўцы, падскоквае, быццам кідае мячык...

У вокнах школы плывуць аблокі...

Асфальт спартыўнай пляцоўкі парэпаны, праз шчыліны трава лезе, расце...

Скрыгатнула жалезная брамка. У школьным двары з'явілася старая ў вязанай шапцы цытрынавага колеру. Яна ледзь заўважна кульгала да спартыўнай пляцоўкі. Дапамагала сабе кійком, абыходзіла гурбы смецця, стосы пакарабачаных лістоў іржавай бляхі, дошкі, пачарнелыя бярвёны, цэглу. Старая ішла і глядзела на школу, а дакладней — на доўгі вохрысты будынак са знятым дахам, з вялікімі вокнамі, дзе плылі белыя аблокі.

Калі яна праходзіла побач, то пaглядзела на мяне і павіталася. Адказаў на яе «добры дзень!» і падхапіўся, як школьнік, калі ў клас уваходзіць настаўніца. Яна спынілася, некалькі імгненняў вывучала мяне, але не пазнала. Не дзіва, на той момант як мы бачыліся апошні раз, прайшло сорак тры гады. У руках настаўніцы геаграфіі была алюмініевая лыжная палка с пластыкавай ручкай і скуранoй пятлёй. Не мной заўважана, што галасы настаўнікаў не змяняюцца, яны застаюцца тымі ж, гучаць, праз гады, як і гучалі...

Я зірнуў на яе адмысловы кій і адразу згадаў, як яна маладая і прыгожая ўваходзіць у наш восьмы «Б», і мы падхопліваемся, бо Зоя Станіславаўна нам падабаецца, бо яна прыгожая і вясёлая.

— Вы мяне ведаеце? — пытанне прагучала тым жа голасам, як на ўроку.

— Ведаю, вы — Зоя Станіславаўна, выкладалі тут геаграфію...

Я сказаў у якім годзе скончыў школу і паехаў вучыцца ў Мінск, назваў сваё імя і прозвішча, але яна не змагла згадаць...

Мы сядзелі і моўчкі глядзелі на школу з разабраным дахам і цэлымі вокнамі.

— Купрыч Толя, Маскалевіч Сяргей, Тузевіч Віктар — добра іх памятаю... — сказала і павярнулася да мяне.

— Зоя Станіславаўна, а ў вас была такая вялікая малахітавая брошка, зялёная... Мне вельмі падабалася.

— Брошка?... Была і ёсць! Вось, глядзіце... — яна прыставіла да лавы кіёк, рашпіліла гузік свайго рабенькага паліто, расхінула вязаны шалік і на шэрай кофце бліснуў зялёны камень, з пражылкамі, як на жнівеньскім ліпавым лісце. — Звычайна вясной, а не восенню я прыходжу сюды і тапчуся побач, а бывае і вакол школы абыйду... I мне так добра робіцца, быццам трэба зноў у клас ісці. Пачынаю хваляваццa, бо галасы дзяцей чую... I гэта... Вось, чуеце, чуеце? Званок! Гэта на трэцці ўрок, а потым будзе вялікі перапынак.

Старая настаўніца паднялася, наструнілася... I я стаяў, прыслухоўваўся. Гудзела машына. У гаражах сквытала «балгарка», грукаў па жалезе малаток. Брахаў на балконе сабака. За паркам, на шашы сігналілі машыны...

— Не, не чую, Зоя Станіславаўна!..

Яна паглядзела на мяне так, як тады... Быццам я не вывучыў урок. Развіталася, пажадала добрага дня, і закульгала да рыпучай жалезнай брамкі. На баскетбольным шчыце гайдалася падраная сетка. Яна так гайдалася і тады, калі мной кінуты мячык ад шчыта трапіў у кальцо, а Віцька Тузевіч, па мянушцы Туз, падскочыў і ўчапіўся за сетку... Сетка падралася...

Настаўніца геаграфіі аддалялася. Школа глядзела на свет цёмнымі вокнамі. У іх бязгучна плылі белыя аблокі... I раптам я пачуў ціхі школьны званок, а потым дзіцячыя галасы... Падумаў, што вялікі перапынак скончыўся.

## Калядны вечар

Мы сустрэліся ў паўцёмным тамбуры гастранома. Я выходзіў, а ён заходзіў. Мужчына схапіў мяне за локаць, паглядзеў ў твар і засмяяўся: прыязна, бяззуба і радасна.

— Не пазнаў? Не пазнаеш? Ну, думай... — гучна гаварыў ён і сціснуў мой локаць, спрабаваў мяне хістаць, як маладзенькае дрэўца.

— Не... Не пазнаю, прабач. — Не надта ўпэўнена адказаў, і яшчэ раз угледзеўся ў шэры няголены твар. Паспрабаваў убачыць яго дзіцячым, юначым. — Прабач.

— А я цябе дык адразу пазнаў, імгненна, хоць ты і акуляры начапіў. Мамка твая на Першамайскай жыла, у першым пад'ездзе. Правільна?

— На Першамайскай... Яна і цяпер там жыве. Я да яе і прыехаў...

— Мамка жывая — добра! Ты, нават не можаш сабе уявіць, як гэта добра. Перадавай ёй ад мяне прывітанне... Яна ж мяне ў кіно пускала... Гэх! Добра было... А мае ўсе памерлі. I бацькі, і жонка і цешча з цясцём. Пайшлі са мной. Гэта ж цуд самы сапраўдны, дзіва нейкае, што я пайшоў сюды і цябе сустрэў. Ну, пазнаў мяне. Эдзік я! Эдзік!

Я шчыра хацеў пазнаць Эдзіка, але не атрымлівалася, бо не было сярод маіх аднакласнікаў Эдзіка.

— Значыцца, састарэў я моцна, але цябе ж пазнаў. Любка казала, што ты пісьменнікам задзелаўся, а ёй кажу, што не можа такога быць, бо які з яго пісьменнік... Праўда?

Ён давёў мяне да адзела с бліскучымі бутэлькамі, якія прапаноўвалі сябе, як танцоркі на сцэне.

— Жанка, хадзі сюды, са святам цябе... Гэта ж нашага Толіка дачка. Нам гарэлку і цыгарэты з фільтрам.

Жанка паглядзела на нас з цікавасцю, перапытала, якую даваць, падала бутэльку. Эдзік беражліва прыняў яе і схаваў у кішэнь за крысом паліто.

— Жанка, сёння больш не прыйду, не спадзявайся. Са святам цябе! А Толік памёр праз год пасля турмы.

Апошні сказ прагучаў ціха, да мяне.

Мы выйшлі з цёплай і светлай крамы на халоднае паветра і Эдзік закурыў. Мігцелі рознакаляровыя, як кветкі на летняй клумбе агеньчыкі калядная ілюмінацыі, церусіў снег, Эдзік выглядаў шчаслівым.

— Пойдзем да мяне. Ёсць у мяне і закуска, а вось пагаварыць няма з кім... Памятаеш як мы з табой на балоце ад ментоў уцякалі? От жа здаровыя былі. Беглі, як тыя алені па кустах, па траве, па вадзе...

— Мне да мамы трэба. Яна не ходзіць, трэба яе пакарміць, прыбрацца, прабач...

— А пайшлі разам, я павіншую яе са святам, давай, я ёй шакаладку куплю. Пачакай, я зараз. Адна нага там — другая тут!

Ён наважыўся вярнуцца ў краму, але я затрымаў яго і сказаў, што не трэба ні шакаладкі, ні апельсінаў. Што я пайду адзін, што я жадаю яму ўсяго найлепшага.

Эдзік спахмурнеў. Яго твар сціснуўся. Рукі апусціліся. Ён глядзеў на мігатлівую святочную вітрыну.

— Сто гадоў не бачыліся, і вось так... — сказаў шэптам, выцягнуў бутэльку і падаў мне. — Вазьмі, выпі за маё здароўе, свята ж вялікае, Колька!

— Эдзік, я не Колька! Ты пераблытаў мяне з малодшым братам.

Эдзік прыціснуў бутэльку да грудзей і застаўся стаяць пад вітрынай, а я пайшоў варыць маме манную кашу.

## Крапіўніца (Aglais urticae)

У пральнай машыне, за пукатым шклом, павольна паварочваліся зімовыя шалікі, і там, як у дзіцячым калейдаскопе, штохвілінна змяняліся камбінацыі колераў. На пліце варыўся ягадны кампот, уздымалася, бачная ў сонечных промнях, пара, і пахла ў кухні так, як пахне пагодным летнім днём. На стале, у плыткім белым кубку, павольна разгортваліся цёмна-зялёныя лісцікі і кіпень памалу рабіўся залатым... Жанчына акуратна кранула кубак, хіснула яго — лісцікі прыўзняліся і пачалі апускацца на дно.

У кухні, ад яркага сонечнага святла, усё зіхцела і зззяла: посуд, падлога, кафля мэбля, шкло. I сама трыццаці чатырох гадовая Тацццяна — гаспадыня ўсяго гэтага духмянага, яркага і бліскучага свету выглядала прывабна. У чорным шкле тэлефона адлюстроўвалася вакно, прычыненыя дзверы на балкон, парэнчы, блакітнае неба (такім яно бывае толькі ў красавіку) аблокі, асветленыя ранішнім сонцам, парк, ледзь крануты жоўта-зялёным дымам пупышак, і далей — бела-залаты горад.

Жанчына падняла руку, павярнула далонь і яна трапіла ў сонечнае святло, быццам у алей. Пазногці мякка зазіхцелі, а кончыкі пальцаў засвяціліся ружовасцю. I на жаночай шчацэ зззяла сонца, і вуха ружавела, а валасы блішчалі...

Пральная машына змоўкла, колеры перасталі перамешвацца. Сіні шалік ляжаў на жоўтым, а зверху чырвоны і маленечкі кавалак белага з махрамі. У кухні зрабілася ціха і ярка. Вуліца і горад сталі чутнымі...

I тут жанчына заўважыла цень па-над плітой — імклівы і трапяткі. Рукі апусціла на калені і вачамі пачала сачыць за матыльком, які пералятаў то са святла ў цень, то з ценю ў святло, каб зрабіцца яркай вогненай кропляй. I гэты матылёк, які невядома адкуль з'явіўся ў кватэры на апошнім паверсе, лётаў па кухні, над бліскучым шклом, пластыкам, кафляй... Ён, быццам шукаў, дзе спыніцца і адпачыць.

Матылёк сеў ёй на плячо і Таццяна адчула легкі бязважкі дотык. Яна баялася паварушыцца, скрануцца, каб не спалохаць трапяткое стварэнне. Касавурылася, але бачыла толькі расплывістую яркую пляму з чорным краем.

Матылёк пераляцеў з пляча на калена, а потым на руку, на указальны палец.

«Божа, ты ж прападзеш тут!» — прашаптала Таццяна і павольна паднялася, трымаючы перад сабой руку з трапяткім матыльком, які то разгортваў крыльцы, то складаў, як далоні... Босай нагой яна расхінула балконныя дзверы шырэй, выставіла руку на прахалоднае паветра і матылёк паляцеў — спачатку да цёмных дрэваў, а потым у неба...

Таццяна ўспамінала таго матылька некалькі дзён і ўсміхалася, але потым забылася, занятая аднастайнымі штодзёнымі клопатамі. Забылася так, быццам і не было таго лёгкага дотыка да голага калена, да пляча, да рукі... Успомніла, праз тры тыдні, калі стаяла на людной вуліцы — расчырванелая і разгубленая. Яна толькі што выйшла з паліклінікі. Выцягнула з кішэні мабільнік, убачыла сваё адлюстраванне і папpавіла пасмачку, заклала яе за вуха. На экране з'явіўся твар няголенага мужчыны з нахабнай і бесклапотнай усмешкай, з глыбокімі залысінамі. Прыціснула мабільнік да вуха, уздыхнула, як набрала паветра і націснула «выклік».

— Алё! Прывітанне, Таццяна, не маўчы!

— Сімановіч, ты мяне чуеш? Сімановіч, ты — гад!

— У сэнсе?

— Я — цяжарная...

— Да ладна...

***22 студзеня Уладзімір СЦЯПАН (Уладзімір Аляксандравіч СЦЕПАНЕНКА) адзначае сваё 65-годдзе. Жадаем нашаму паважанаму аўтару радасці і сонечных надзей на блізкую вясну!***

# Дрэва будучыні






Васіль ЗУЁНАК

***

*Штосьці ў царстве зімы не дароблена:*
*Хоць вясна на календары —*
*Выбіраюць зярняткі дробныя*
*Ў бадыллі зімакі-снегіры.*

*Штосьці чуюць яны, ды не ведаюць,*
*Хто вясну засланяе ад іх,*
*І з якімі наступствамі-бедамі*
*Чалавек перад імі прыціх.*

*Гэта я... У снезе пашэрхлым*
*Зябну сам, хоць ідзі ў снегіры, —*
*Толькі вы ці даруеце вэрхал,*
*Што ўчыніў я ў сусветным двары...*

*Гэта я, снегіры, падтасоўваю,*
*Нібы карты — па-шулерску, дні.*
*Гэта мой прагрэс перасоўвае:*
*Сквар — на поўнач,*
*на поўдзень — лядні...*

*Гэта я... Я зіму затрымаў тут,*
*Хоць трымаць мне яе не з рукі,*
*Я злачынцычык, зачынщчык гвалту*
*Над прыродай — а выйгрыш такі:*

*Сакавік грымне ў ноч наваго́днюю.*
*Снежань выпадзе ў сакавіку... —*
*Гэта я — геніяльным шкоднікам*
*Дрэва будучыні сяку...*

*На ўзбярэжжы вясны, гнездавання*
*Ходзіць гульбішча псеўдазімы —*
*З гэтым холадам, цалкам рэальным,*
*Дзе грамы ў лёхах сцюжнай турмы...*

*Гэта я — б'ю «па банку» бяздумна, —*
*Гэта выйгрыш мой, снегіры:*
*Ваш сняданак з посвістам сумным*
*І зіма — на вясновай зары...*

***

*Затухае, мялее крыніца,*
*І нельга не пагадзіцца*
*(Не аспрэчаць ні меч, ні вечa):*
*Штодзень, то бліжэй да Бога,*
*А ў Бога адна дарога —*
*Вечнасць.*

### Пясочны гадзіннік

*Гадзіннік пясочны —*
*Станік жаночы,*
*Перахоплены, як нітачкай, —*

*Па-жаночы*
*Час адлічвае.*

*За хвілінаю хвіліна —*
*У пясок,*
*За пясчынкаю пясчынка —*
*У гадок.*

*Праз націнку*
*Час бруіцца,*
*Прасыпаецца, —*
*Як з дзяўчынкі*
*Маладзіца*
*Прачынаецца.*

*А праз пяць хвілін —*
*Праз пяць! —*
*Пераверне́цца*
*І малінкаю з малін,*
*Як у сорак пяць —*
*Не хвілінак,*
*А гадоў, —*
*Баба ягадка ізноў!*

*Зноў дзяўчынка*
*З маладзіцай —*
*Зноў! —*
*Спрачаюцца:*
*Дзе той мусіць час*
*Спыніцца,*
*Дзе ён пачынаецца?!.*

*Долю высочвае*
*Стварэнне пясочнае...*

### Лыжня

*Лыжня ілжывая*
*З лясной нажываю:*
*Бяжы, бяжы —*
*У міражы.*
*Бяжы па следзе —*
*У маладосць.*
*За лесам недзе*
*Шчасце ёсць.*

*Вядзе, заве —*
*Не знае жалю,*
*Бо не мяне:*
*Лыжня —*
*Чужая.*

*Імчыць*
*Лыжня —*
*Як успамін.*
*Маўчыць*
*Лыжня —*
*У сэрца клін.*

***

*Прастора — маё жыццё*
*Ў часе маім кароткім.*
*Хацелі б, ды больш не дасцё*
*Вы мне, — ні нашчадкі, ні продкі.*

*Бясконцасць — яна для ўсіх,*
*А кожнаму паасобку*
*Вечнасць — як ускалых*
*Дыханне ў хадзе таропкай.*

*Глядзіш на чужыя гады*
*І думаеш: «Як гэта многа!..».*
*Свае нажывеш — тады*
*Ўздыхнеш: «Дык няма ж нічога!..».*

*Што ж, часу адмераў Бог,*
*А ты — шукай абярогі.*
*У адзіноце — залог*
*Адзінай святой дарогі.*

*Каб лёс — як біблейскі Хама —*
*Нявер'ем дарогу не засціў,*
*Знай: шчасця без шчасця няма,*
*Шчаслівых няма ў няшчасці...*

### Пакараная

*Мне ў тайну — такой адзінокай,*
*Такой безнадзейна самотнай —*
*Не даў зазірнуць Усявышні...*
*Ці я ад святыні далёка*
*Сышоў па дарозе смяротнай?*
*Ці я ў свеце тайны той — лішні?..*

*І ўсё ж — без адказу — пытаю:*
*За што табе лёс прызначыў*
*Такое наканаванне,*
*За што і хто так карае:*
*Быць кветкай, што ў леце гарачым,*
*Не расквітнелая, вяне?..*

*Якія ні ёсць прычыны —*
*У кожнай змянае джала, —*
*І хто ты ў жыцця крутаверці?*
*І што можа знаць жанчына,*
*Якая не нараджала,*
*Пра смерць і бяссмерце?..*

***

*Было: турбот зямных драсён*
*І з небам раўнапраўе, —*
*Здаецца, шмат, калі не ўсё,*
*Сам пра сябе пазнаў я.*

*Я свет нязведаны твaрыў*
*І руйнаваў пры гэтым.*
*Ды толькі так і не адкрыў*
*Сакрэта між сакрэтаў:*

*Чаму і па чыёй віне*
*Самотна так жылося,*
*І закаханым у мяне*
*Я шчасця не прыносіў?..*

***

*А ўсе надрэччы белыя*
*І паручэўі ўсе:*
*Чаромха, расквітнелая,*
*Уброд вясну нясе.*

*А тут — над песняў песняю —*
*Ды салаўіны спеў!.. —*

*Ці гэтак я развеснены?*
*Ці свет асалавеў?*

### Палітыка

*Хата як хата, ды нельга зайсці:*
*Дзверы маюцца, ды без клямкі.*
*І грунт — нібыта ў балотным трысці:*
*Дарог няма — толькі напрамкі...*

### Так Бог скіраваў...

*Так Бог скіраваў жыцця паром:*
*Не выдаў яму планіду байцоў.*
*Ды шлях каб не стаўся марным,*
*Сказаў: як не будзе ён змагаром —*
*Хай стане мудрэйшым паміж мудрацоў, —*
*І ў гэтым яго змагарнасць.*

***

*Беднасцю прыстойнай бласлаўёная,*
*Дзе нішчымнасць завіхалася кухаркай,*
*Страва называлася бялёная:*
*Тры вады — і малако ў прыварку.*

*Забялёная? — малочная з пытальнікам:*
*Толькі колерам пад малако фарбуецца, —*
*На стале малочная праталінка,*
*Як у пост, сама сабой любуецца.*

*Ці зацірка, ці булён які з картопелькі —*
*Хоць сівенькія, ды выгляд чапурны!*
*А гарачыя ж! — у місу поту кропелькі*
*Аж бруяцца ў тры верацяны...*

*З той абманнай радасцю застольнаю —*
*Ад калыскі да грудка апошняга —*
*Вы са мной: і памяццю супольнаю,*
*І наяўнай яваю няпрошанай.*

*Цот у цот... І я не надта збочваю:*
*Цуд кулінарны нагадаў*
*Міф, што рэкі ў нас цякуць малочныя,*
*А прыглядзішся — сівенькая вада...*

### Золкім раннем...

*Як жа так: за што мне гэткі вырак?*
*Жаўталіст з дажджом зашапацеў, —*
*Як жа так: у свой заморскі вырай*
*Шпак, не развітаўшыся, зляцеў...*

*Першы раз — у сёлетнюю восень —*
*Не пакінуў мне суцешны спеў,*
*Каб зімой крыху цяплей жылося,*
*На душы вясну́ючы спадзеў...*

*Як жа так: не мне, дык хоць шпакоўні*
*Хай бы перад вылетам сказаў:*
*«Не турбуйся і чакай спакойна:*
*Я дамоў шляхі не завязаў, —*

*Я вярнуся...» —*
*То і я пачуў бы —*
*Быццам ад вясны ключы здабыў,*
*І мароз тады завейначубы*
*Мне б амаль запанібрата быў...*

*Так я выбадзяў... І спадзяванні*
*На сустрэчу ўжо згубіў зусім...*

*Толькі цуд адбыўся золкім раннем:*
*Свіснуў шпак — нібы гукнуў:*
*«Васіль!..»*

*Аб'явіўся! На бярозе стылай*
*Быццам зноўку май зазеляне́ў!..*
*Ах, свавольнік! Дзе ж цябе насіла?*
*Гэта ж кожным пёркам азалеў...*

*То было чацвёртага —*
*адзначым*
*Дзень кастрычніцкі дакладна, —*
*зазіраў*
*Ты ў шпакоўню родную, — няйначай,*
*Памяць генную яшчэ раз вывяраў.*

*І хітаў пры гэтым галавою —*
*Дзякаваў ці ўрок які цвярдзіў?*
*А магчыма, за спазненне тое*
*Прабачэння і ў мяне прасіў?..*

*Як, чаму? — хоць позна, але ўважыў, —*
*Клопатаў жа шмат перад зімой:*
*Сходы, трэніроўкі, інструктажы?.. —*
*Што пытаца!.. Дзякуй, браце мой!..*

***

*Калі маўчаць дрэвы —*
*Гэта не цішыня:*
*Гэта іх антыспевы*
*На адыходзе дня.*

*А мне напамін, тым часам,*
*Зямны скасаваць настрой:*
*Застацца з сабою сам-насам —*
*І ў антысвет з галавой...*

*Ад гэтай лухты несусветнай,*
*Ад несусветнай маны,*
*Ад велічы гэтай ракетнай*
*І ад «вертыкальнай» шпаны...*

*Ад крымінальных мільёншчыкаў,*
*Ад «праўдырскіх» свярбін,*
*Ад барабаннага пошчаку*
*Ўладаахоўных дубін...*

*Вось толькі зашчэпка ў сакрэце:*
*А што антысвет за цуд —*
*Ці ён сапраўды ў антысвеце,*
*Ці ён, выбачайце, — тут?..*

*Закладнік жыцця зямнога,*
*У вечнасці дзён не малю,*
*Хоць іх, як заўжды, не замнога, —*
*О лес мой, вяртай на зямлю...*

*Не збегчы ад боскага гневу,*
*Нікога прысуд не міне...*

*Я чую, я чую вас, дрэвы!*
*Ці чуеце вы мяне?..*

***

*Мне кожны дзень амаль як родны брат.*
*Што ні даю — усё бярэ з ахвотай.*
*А наўзамен, нібы чуллівы кат,*
*Ён зычыць мне вяроўку з пазалотай.*

*Ён пакідае мне на ўсё правы:*
*Сам разбірайся і лічы правіны,*
*І сам сябе судзі, пакуль жывы...*
*Жыву: злачынца з катам — сам-адзіны...*

*Штоночы тайны чорнае крыло*
*Над допытамі сны мае гайдае...*
*Я знаю ўсё: што будзе, што было,*
*А вось што ёсць, ніяк не разгадаю.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (197), студзень 2023 года

# «З гліны, веры, крыві»

Ала НІКІФОРСКАЯ

*

З Юрыем Уладзіміравічам ГОЛУБАМ пазнаёмілася, калі працавала ў музеі Максіма Багдановіча: гэта быў непрацяглы час — няпоўных два гады, з 17 лютага 1999 года да 13 снежня 2001 года... Працавала галоўным захавальнікам фондаў, але малы штат музея патрабаваў умець усё: пастаянна праводзіла экскурсіі і, вядома, пісала артыкулы для «Гродзенскай праўды», звязаныя з адметнымі датамі і юбілеямі, перш за ўсё — Максіма Багдановіча.

Неяк адразу Юрый Уладзіміравіч спытаў: «Адкуль у Вас такая добрая мова?». Я расказала, што нарадзілася і вырасла ў вёсцы — на Дзятлаўшчыне, што закончыла філалагічны факультэт БДУ па спецыяльнасці беларуская і руская мова і літаратура...

На «Літаратурнай старонцы» газеты «Гродзенская праўда», якая рыхтавалася раз у месяц, Юрый Уладзіміравіч змяшчаў мае вершы — на беларускай і на рускай мовах... Ведаў, што я пішу на дзвюх мовах, і не чыніў мне нейкага абмежавання...

*

Тое, што Юрка Голуб ёсць паэт вышэйшага рангу — несумненна... А што прыцягвала ў ім — як у чалавеку? Сапраўднасць. Шчырасць. Інтэлігентнасць. Ён меў стрыжань высокай чалавечнасці.

Ён не быў двулікім, ён не быў фальшывым... Гэта тое, чаго я ніколі не прымаю ў чалавеку... І асабліва — у творцы...

Юрый Уладзіміравіч вельмі добразычліва ставіўся да ўсіх, хто меў з ім літаратурныя стасункі. У размове з ім не адчувалася гэтай недасягальнасці мэтра, гэтага *превосходства* яго паэтычнага майстэрства, якім так шчодра адарыў яго Гасподзь... І ў той жа час ён быў патрабавальным да слова: нешта змяняў, нешта выпраўляў... Разы два я гэтыя змены адчула і на сваіх тэкстах...

*

У газеце «Вячэрні Гродна» за 23 кастрычніка 2002 года быў надрукаваны мой артыкул «Поруч з дажджом. Берагі Юркі Голуба» з нагоды 55-годдзя паэта.

Неяк была ў рэдакцыі «Гродзенскай праўды», і ў размове з Юрыем Уладзіміравічам я падзялілася сваёй задумай напісаць артыкул да яго юбілею... Ён расказваў мне пра некаторыя моманты свайго жыцця, а пазней даверыў мне свае біяграфічныя замалёўкі...

З іх я даведалася, што маці паэта Аніссі Васільеўне цыганка калісьці нагадала, што яе сярэдняму сыну (у сям'і было трое сыноў, Юрый Уладзіміравіч — сярэдні) Бог дасць такое шчасце, што яна не будзе ведаць, адкуль яно ўзялося... Юрый Уладзіміравіч прызнаваўся: «І сам цяпер у немаладым ужо веку да канца не магу дадумацца, што гэта за таямнічае "шчасце"? Можа, магчымасць на самоце слухаць, "як зорка зорцы голас падае"»?

А таксама — пра адносіны з Ларысай Геніюш: пра верш «Белавежа» з прысвячэннем



Юрка Голуб

Ларысе Антонаўне, які быў надрукаваны ў «Полымі», пра яе рэакцыю на гэтае літаратурнае дзеянне... (Я разумею, што гэта было не толькі літаратурнае, але і грамадзянскае дзеянне — свядомы ўчынак маладога паэта...). «Зубраня дарагое» і сёння з пачуццём удзячнасці дастае кнігу «Невадам з Нёмана», першы зборнік Ларысы Геніюш на радзіме, і чытае надпіс на ёй:

*Аднойчы ночкаю цёмнай,*
*Толькі не знаю гадзіны,*
*Выйдзі на бераг Нёмана,*
*Я невад табе пакіну,*
*Як сыну...*

*

Ма́ю тры кніжкі, падараваныя і надпісаныя Юркам Голубам... Даражу кожнай кніжкай і кожным надпісам... Падпісваў кнігі лёгка, імгненна, з нейкім нябесным натхненнем... Кожны яго надпіс быў адметным...

На кніжачцы трыялетаў «Зажураны камень» 26.09.2002 г. зроблены надпіс: «Найшаноўнай Але Нікіпорчык з зычэннямі зорных сцежак у слове і жыцці».

Дзве ісціны, два бакі адной дзеі — для тых, хто піша... «Боязна чыстай паперы, Нібы ў люстэрка глядзець...» — так вызначыў паэт Юрка Голуб адну з іх у сваім трыялеце «Аркуш». Другую абгрунтаваў югаслаўскі пісьменнік Эрых Кош: «Мы памыляемся, калі сядаючы за пісьмовы стол, думаем, што перад намі белы, не спісаны ліст. На ім ужо адбілася ўся гісторыя літаратуры, і мы ніколі, па сутнасці, не пачынаем з самага пачатку». І гэтую сувязь з гісторыяй літаратуры, што адбілася на чыстай паперы, выразна выявіў зборнік Юркі Голуба «Зажураны камень», дзе сабраны трыялеты, напісаныя аўтарам у розныя гады.

Прыгожая лаканічная форма трыялета — нездарма ж класік напісаў: «Ёсць ча́ры ў забытым, старадаўнім...» — не здаецца і не ўспрымаецца ўжо як забытая ці старадаўняя, дзякуючы творам самога Максіма Багдановіча, дзякуючы таму, што гэтая вершаваная форма знайшла свой працяг у беларускай паэзіі. Трыялеты мы сустрэнем у многіх паэтаў. Але зборнік «у адной вершаванай раме» — трыялеце — выдадзены ўпершыню. Ды і сам Ю. Голуб у кароткай прадмове да яго прызнаецца ў сваёй «апрамененасці» Багдановічавай паэзіяй назаўсёды.




Нягледзячы на замкнёнасць, цыклічнасць трыялета як вершаванай формы, на строгае размяшчэнне радкоў у ім, аўтару, як правіла, удаецца напоўніць свае творы глыбокім філасофскім зместам («Воля», «Памяць», «Прыпынак», «Плады», «Лісце» і інш.).




*...Дзве няўмольных, як кара, стрэмкі.*
*Вось і век нечакана згас.*
*Адразаюць няспынна стрэлкі*
*На гадзінніку круглы час.*

Гэтая няўмольнасць і хуткаплыннасць часу, выражаная ў трыялеце «Гадзіннік», яшчэ больш пранізліва і пакутліва выступае ў трыялеце «Сівізна»: «Не верне час назад // Сляды чужых людзей...». Ды і блізкіх таксама, — хочацца дадаць ад сябе. І гэтую незваротнасць як нельга лепш дапамагае перадаць адно-адзінае адзначэнне — «пасівелы» (сад). Вобраз «пасівелага саду» як бы ўтрымлівае — заключае — замыкае — у сабе ўсю гэтую незваротнасць.

Юрка Голуб умее адным рухам, адным штрыхом — словам! — надаць паэтычнай карціне глыбіню і значнасць, закончанасць і завершанасць, можа нават — усявычарпанасць. Як гэта зроблена ў трыялеце «Маладосць»:

*Над люстэркам глыбокай вады*
*Наша шчасце з табой вечарэе.*
*Толькі твар твой зусім*
*не старэе*
*Над люстэркам глыбокай вады.*
*Нас з табою да скону сагрэе*
*Шэпт гарачы і шэпт малады.*
*Над люстэркам глыбокай вады*
*Наша шчасце з табой вечарэе.*

Безасабовы дзеяслоў «вечарэе» становіцца асабовым, і спалучаецца ён не з днём, а са шчасцем, у якога ёсць свой узыход і заход. «Наша шчасце з табой вечарэе», на першы погляд, — проста і ёміста, але якая глыбіня — нібы нахіліўся над стромай... Але якое супрацьстаянне часу: «Над люстэркам халоднай вады // Наша шчасце з табой вечарэе» — і душы: «Нас з табою да скону сагрэе // Шэпт гарачы і шэпт малады»... Драма — у васьмі радках. Для сапраўднага майстра няма абмежавання для глыбіні і філасафічнасці зместу нават у трыялеце. Нават у двух вершаваных радках:

*Людзі асенняга ўзросту*
*Сталі на гулкім прыпынку.*

(«Прыпынак»)

Антытэза. Палярнасць людзей і таго прыпынку, пад якім таксама падразумяваюцца людзі (хлопец, што «замоўчвае ростань», дзяўчынка, што «шчабеча», нібы наіўнае птушанё), хоць знешне яны аб'яднаны — месцам. Несумяшчальнасць асенняга і гулкага...

Час і душа — гэта тыя два зместавыя стрыжні, на якіх «трымаюцца» трыялеты Юркі Голуба. І, вядома ж, — паэтычнае майстэрства аўтара. Час — не сам па сабе, а менавіта яго адчуванне, успрыняцце: узаемадачыненні часу як катэгорыі вечнай і паэта (хочацца дапісаць: таксама — як субстанцыі вечнай).

Для кожнага трыялета характэрна свая настраёвасць, падчас — музыкальнасць («Вадаспад», «Чайка»). Страявая маршавасць чуецца ў чаканных радках «На шляху і на зыходзе дня // Вецер біў у бубны гімнасцёрак» трыялета «Войска». Мастацкай дасканаласцю — у адносінах зместу і формы — бачыцца трыялет «Матылёк» (капялюшык — як матылёк, і час — гэтае «воблачка мінулых дзён» — таксама, як матылёк: прамільгнуў — прамільгнула)... У трыялеце «Маладзік» — «Месяц плешчацца, як дзіця, // Неба поўнае, як балея» — паэзія саступае месца жывапісу... Хіба класіцызму? Гармоніяй і самадастатковасцю вее ад гэтай намаляванай маладзіковай карціны.

Гаворачы пра паэзію Юркі Голуба, нельга пакінуць па-за ўвагай рыфму. Яна — багатая, падчас складаная, нават глыбока-каранёвая: астральна — магістралі — каралі («Сасна»), карчы — крычы — прычын — прычым («Лес»), гартаю — гергетанне — гартані, кране — раней («Сшытак»), плашчаніца —прычыніца — чужаніцы («Старасвеччына») і інш.

Так лёгка і натуральна, па-філасофску глыбока і па-мастацку дасканала, як, напрыклад, гэтае прызнанне: «Спадчынны край на зары // І жылкаю мне далягае...», гучаць трыялеты ў кнізе Юркі Голуба «Зажураны камень», напісаныя па канонах гэтага прыгожага і вытанчанага жанра — па канонах уласнай Душы.

*

Вельмі багатая і разнастайная тэма радзімы ў творчасці Юркі Голуба. Яго паэзія асвечана асобай аўтара — яго глыбокай і шчымлівай любоўю да роднага краю, як, напрыклад, у згаданых радках:

*Спадчынны край на зары*
*І жылкаю мне далягае,*
*І з твару падобны да гаю*
*Спадчынны край на зары...*

— з трыялета «Край».

Прычым вершы яго ніколі не паўтараюцца — няма нейкіх пустых перапеваў, як гэта, на жаль, часта бывае ў радках, прысвечаных радзіме. «Родныя сцены», «Зэльвенская галінка», «Пабеленая хата»... — я не стаўлю мэтай пералічыць усе вершы, але не магу не ўспомніць вельмі любімы мною верш «Альховы лісток»...

*Вячэрні пагляд калышу...*
*Адкрыцца для слова гатовы,*
*Англійскаю ручкай пішу*
*Пра зэльвенскі лісцік альховы.*

*

Паэт быў уважлівым да чужых публікацый, да працы сваіх калег па пяры — да іх поспехаў, да кніг... Неяк бачыла яго прысутным на прэзентацыі альманаха «Нябесны знак», які рэдагавала і выдавала Марыя Шаўчонак... Дарэчы, і «Галасы», і «Нябесны знак» выходзілі ў адзін і той жа час — паралельна, і вершы самой Марыі Шаўчонак друкаваліся ў «Галасах»...

Яго цікавілі новыя імёны, неардынарныя літаратурныя з'явы... Галя Самойла расказвала, калі быў выдадзены зборнік «Сола трох галасоў» (2002), дзе былі змешчаны вершы яе маці, брата і яе самой, — Юрка Голуб прыехаў у Бандары (так называецца вёска), каб пазнаёміцца з гэтай паэтычнай сям'ёй, а пасля напісаў артыкул...




*

29 верасня 2005 года адбыўся «Літаратурны чацвер» у чытальнай зале (на Савецкай, 8) абласной бібліятэкі, назву ён меў «Літаратурныя партрэты Гродзеншчыны». Гродзенская навуковая абласная бібліятэка імя Я. Карскага святкавала сваё 175-годдзе, і Лідзія Васільеўна Мальцава даручыла мне сумесна з загадчыцай чытальнай залы Раісай Пятроўнай правесці гэтае мерапрыемства...

Застаўся прыгожы ўспамін пра гэты вечар... Засталіся здымкі, можа, яны не вельмі якасныя, але вельмі дарагія — нават і для сённяшняга дня... Можа — і асабліва для сённяшняга дня...

На здымку Юрка Голуб, Аляксей Пяткевіч, Ігар Жук і Юра Пацюпа... Можна сказаць, што гэта ўжо гістарычны здымак: з іх прысутным на Зямлі застаўся адзін Юра Пацюпа...

Быў і агульны здымак — у канцы вечарыны...

Заканчэнне на стар. 11 »

# «З гліны, веры, крыві»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 10

Вечар вяла я, прадстаўляла кожнага пісьменніка і, вядома, закранала яго творчасць...

У Юркі Голуба незадоўга да гэтага выйшаў зборнік «Брама зімы», і я ў сваім слове пра паэта болей апіралася на яго змест... У мяне была напісана — пазней? — і рэцэнзія «Гаючы звон» на гэты зборнік... Чаму я яе нікуды не паслала? Магчыма, таму што хутка адбыўся разрыў адзінай літаратурнай прасторы Беларусі...

## Гаючы звон

Юрка Голуб любіў дарыць чытачам адкрыцці: то, прыадхінуўшы заслону дажджу, дасць магчымасць слухаць галасы зямлі (помніце? — «Ідуць галасы навобмацак...» у зборніку «Поруч з дажджом»), то выбера для сябе «рызыкоўную спробу адчыніць даўнейшую ваконную раму трыялета ўласным дотыкам» у зборніку трыялетаў «Зажураны камень», то, падвёўшы да «брамы зімы», вярнуць нас у маўчанне-ўспамін, у роздум, у пераасэнсаванне жыцця і свету... Менавіта так — «Брама зімы» — называецца новая кніга паэта, што выйшла ў 2004 годзе.

Паэзія Юркі Голуба не адпускае. Не адпускаць — гэта ўлада моцных. Не, не фізічнай, а мастацкай сілай. І нават калі падасца, што ты зведаў яго паэзію да дна — хоць якое ў вечнасці дно!?. (а паэзія — усё-такі калі не вечнасць, то самая родная яе часцінка) — гэта выйдзе няпраўдай. Можна прачытаць усе радкі ўздоўж і папярок і, адкрыўшы новую кнігу паэта, «спатыкнуцца» ўжо на другім вершы, і, адхінуўшы кнігу ад сябе, падумаць са страхамздзіўленнем: «Ды я ж зусім не ведаю яго паэзіі!..». Бо адкрыецца іншая складанасць і глыбіня зместу і сродкаў яго выяўлення — «Паветру грудзі гук працяў, // І смуткам сталася паветра...», і загучыць яго «Музыка восені» (так называецца верш, — *А. Н.*) глыбакадумна-трагічнай бетховенскай санатай... І падобна да гэтага гуку, што праця́ў паветра, цябе самога працінае слова паэта... Але ты шчаслівы ад гэтага болю, бо гэты боль не баліць, не раніць, а ацаляе. Бо гэты боль яшчэ раз нагадвае аб вышыні і вартаснасці жыцця. І тады, упоўнач — так супаў час — захочацца чытаць услых бяссонаму сусвету гэтыя балюча-ацаляючыя радкі...

Тэматычна і жанрава зборнік «Брама зімы» разнапланавы і шырокі: балады, верлібры, трыялеты, паэма... Хоць жанравыя межы вельмі ўмоўныя: уласна лірычныя матывы, як, напрыклад, у вершы «Сямейны альбом», пераплятаюцца ў зборніку з лірычна-драматычнымі, як у вершы «Паілі коней»...

*Рака. Каменне.*
*Вады аскома,*
*Сярод духмені*
*Паілі коней.*

З першай страфы ўжо адчуваецца напружанне і трывога... Паступова яны нарастаюць: «Ці не апошніх // З таго прызыву, // Які ад пожні звялі за грыву...».




Гэтая драматычная нотка перадаецца і самой рацэ: «Рака на шалях // Гайдала смагу»...

Вершы «Янка Брыль у Якушоўцы», «Кушляны. Восень», «Вяртанне верша "Мые вокны Жэня Янішчыц"» узнімаюцца да высокага баладнага гучання, хоць яны і непазначаны як балады.

*Горад зморана паспяшае.*
*Нервы круціць у скрутак кран.*
*Чысціню б тут насіць каўшамі,*
*А яе не хапае — край...*

— вось так ускосна, зашыфравана — брак чысціні! — вызначана трагедыя Паэтэсы.

Да глыбокага філасофскага асэнсавання творчага подзвігу Мастака — Майстра — звяртаецца Ю. Голуб у вершы «Разбяр»:

*Ён адхіляўся незнарок*
*І закрываў наглуха вочы.*
*І засынаў у ім прарок.*
*І прачынаўся голад воўчы.*
*Ізноў хапаўся за разец.*
*І аплываў начы агарак...*

І найвышэйшае ў творчым акце — гэта еднасць, непарыўнасць таго, хто творыць, і таго, што створана ім: «А майстра пацеры шаптаў, // дрэва шэптам паўтарала»... Толькі пры такой умове нараджаюцца шэдэўры.

Звон лёну пад родным небасхілам, «напаўзабыты напеў» галаснікоў Каложы, дзед, што «ля лазні сядзіць, // Як тутэйшы Вяргілій», пераадоленне плётак-звадаў і перамога кахання:

*Мы з табою разарваліловы:*
*Іх прынесла звада, як вада.*
*Ты такія мне шаптала словы,*
*Што цяпер памерці не шкада.*

— гэта ўсё адкрываецца чытачу, калі ён пераступае «браму зімы» Ю. Голуба.




Але калі патрэбна было б акрэсліць тэматычны дыяпазон зборніка паэта некалькімі словамі, то найбольш дакладнымі, ці адпаведнымі, былі б — прага жыцця. Узяты яны не адвольна. Падказалі іх радкі з верша «Ранак у Браціславе»: «І прагнулі разам жыцця прад усім // Пагляд, перазоў, аблачына...». Галоўнае і другараднае, жывое і неадушаўлёнае — усё ў кнізе, дарэчы, як і ва ўсёй паэзіі Ю. Голуба, пранікнута гэтай прагай жыцця. Больш за тое, калі б патрэбна было выбраць эпіграф да ўсёй творчасці Ю. Голуба, ім сталі б радкі: «Ты быў шчаслівым у журбе, // Няшчасным стаць тым больш не варта» з верша «Аднойчы», якім адкрываецца кніга паэта. Радкі, якія можна назваць своеасаблівым паэтычным (ці нават — жыццёвым) крэда творцы. Якім жа чынам яны выбраны — чыста інтуітыўна ці свядома-асэнсавана на аснове ведання творчасці аўтара? Думаецца, што ўзаемна-абгрунтавана гэтымі двума спосабамі.

Для паэзіі Юркі Голуба характэрны дзве, на першы погляд, несумяшчальныя ўласцівасці (адметнасці): багатая, глыбокая вобразнасць («Раскручвае шпулю шашы // Няўтомна-задыханы вецер...», «Вочы слухаюць, а сэрца чуе. // І шугае музыка душы, і раса на дубчыку начуе, // Маладзік гайдаецца ў каўшы») і строгая, нават — сухая дакладнасць вершаванага тэксту. Але гэта толькі на першы погляд. У творчасці паэта яны ўжываюцца суладна і арганічна, як, напрыклад, у вершы «Кушляны. Восень»:

*Кушляны. Восень. Жарабя.*
*Мацея Бурачка сядзіба.*
*Тут час ствалы не парубаў —*
*Навекі пасадзілі.*

Тут і назыўныя сказы, і метафара, і антытэза. Усё гэтае багацце выяўленчых сродкаў дапамагае паэту поўна і яскрава акрэсліць свет Мацея Бурачка, узняцца да высокіх абагульненняў: «Абсяг Мацея Бурачка. // Сусвет змаганскі слова».

Як прыклад глыбокай канцэнтраванай метафорыкі нельга не прывесці страфы з верша «Янка Брыль у Якушоўцы»:

*І пячатка з былой абсады*
*Пазбірала цяпло ад рук,*
*А жаўрук хвалявання падаў*
*Аж на віленскі сцюжны брук.*
*Мастацкі сцежкі ручайка*
*Вытыкалася ў той сувой,*
*Што з крывёю мог заручацца,*
*Сцягам збіцца над галавой.*

Паэт не перастае здзіўляць сваёй назіральнасцю, трапнасцю дэталяў, значнасцю параўнанняў...

*Ліст упаў на галіну,*
*Ухапіўся аберуч,*
*Як за полымя гліна*
*Ці радок за паперу.*

(«Вясна. Сустрэча з дрэвамі»)

Трэба адзначыць, што паэтычная мова Юркі Голуба заслугоўвае асобнага даследавання. Думаецца, што гэтым павінен заняцца крытык — менавіта мужчына. А. Шапэнгаўэр нездарма аддаваў перавагу «мужчынскаму розуму» перад жаночым. Ужо пасля некалькіх ранніх кніжак паэта крытык (і паэт) Фёдар Яфімаў здолеў убачыць, што пісьмо Юркі Голуба «крутога і моцнага замесу». І чым не ілюстрацыя да гэтага бачання наступная страфа з верша «Аднойчы»:

*У кругаверці над зямлёй,*
*У голля хрусткім развароце*
*Бяды пабачыўся залом*
*І кроў, як соль, спяклася ў роце.*

Але «крутога і моцнага замесу» ў Юркі Голуба не толькі пісьмо, у яго і характары — народ — такія ж:

*Мы — з крутога замесу:*
*з гліны, веры, крыві.*
*Нам не зрушыцца з месца,*
*Дзе ў жытáх краявід.*

Пачуццём удзячнасці аўтару поўніцца душа за вобраз Ларысы Антонаўны Геніюш, створаны па-мастацку высока і дасканала. «Успамін пра паэтку» — гэта знак няскоранасці і высокай чалавечай годнасці.

Паэма «Знакі» — гэта яшчэ знак памяці («Памяць нашу ці хто расцёр? // Заплыла, як лоем, гадамі?» Паэма «Знакі» — гэта клопат пра нашу памяць, гэта трывога аўтара пра чалавечае аблічча ўсёй нашай нацыі. Паэма «Знакі» — гэта яшчэ знак мовы («На манкурцтва не здольны люд...»).




*

Завяршэнне 2005 года было цяжкім — нейкім разломным... У канцы лістапада быў створаны новы Саюз — Саюз пісьменнікаў Беларусі... Быў боль і недаўменне...

Праз некалькі дзён мы стаялі з Юрыем Уладзіміравічам у вузенькім міждзвер'і — увахodзе ў абласную бібліятэку, бо з неба нешта сыпалася — хутчэй за ўсё першы мокры снег, і абмяркоўвалі гэтую падзею... (Я не помню, з якой нагоды ён прыйшоў у абласную бібліятэку...)

З прычыны згаданага разлому і наступны выпуск «Галасоў» ужо не выйшаў...

*

Потым я пасля доўгага вагання ўступіла ў новаствораны Саюз пісьменнікаў... Выдала за свой кошт дзве тоненькія кніжачкі на беларускай мове ў «Кнігазборы» — «Слязa і малітва» (2006) і «Пад бахаўскую такату дажджу» (2007). Рэдактарам апошняй быў Юрка Голуб. 19 снежня 2007 года адбылася іх прэзентацыя ў абласной бібліятэцы, на якую я, вядома, запрасіла Юрыя Уладзіміравіча... Але ён не прыйшоў...

Як казаў Артур Мілер, амерыканскі драматург, нічога няма болей драматычнага за чалавечыя адносіны... (У двукоссе не бяру — пішу цытату па памяці, але сэнс дакладны...)

Гэты раскол, сапраўды, быў балючы... Парываліся нават знешнія сувязі — глыбокіх сяброўскіх сувязяў з літаратарамі Гродзеншчыны я не мела, людзі падчас станавіліся ворагамі...

У размове з Юрыем Уладзіміравічам я казала: «Баліць ужо не толькі душа, але і цела...». У больш позняй размове...

*

Вядомая ўсяму свету гэтая непахісная выснова — «неисповедимы пути Господни»... Сапраўды так... 27 верасня 2016 года мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў...

Мне патрэбна было ехаць на пасяджэнне Рады, але я не паехала: памірала мама... А палове пятай дня мне патэлефанавалі Юрка Голуб і Валянцін Дубатоўка: мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў... Павіншавалі...

Рэкамендацыі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў мне давалі Юрый Уладзіміравіч Голуб і Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч... Дзве знакавыя асобы — для нашага горада... Я прачытала тыя рэкамендацыі — і жахнулася. Ці — спалохалася... Быццам гэта не пра мяне...

Потым, калі крыху апомнілася, хацела зрабіць ксеракопіі — пакінуць іх сабе... Але не насмелілася: чалавек — слабая істота, яму ўласціва гардыня — вядома, у розных ступенях, і нейкія іншыя, не зусім Божыя рысы...

А з другога боку — тыя высокія тэксты, калі ўпадаюць сілы, калі бывае адчай і бязвер'е, маглі б падняць мяне і прадоўжыць зямную дарогу...

Я ўдзячна ім абодвум... Для мяне гэта вельмі дорага... І светла...

*

Апошнюю яго кнігу «Краявід», выдадзеную да 70-годдзя, я не ма́ю... Я паскардзілася на гэта Юрыю Уладзіміравічу — на тое, што не маю яго кнігі, — на нейкай прэзентацыі, хутчэй — «Новага замка»... «Засталося ўсяго дзве»...

Потым ён хацеў падарыць мне тую кнігу — заехаць... Але ў мае хворай цёткі былі — перыядычна — вельмі складаныя і цяжкія дні, і я не змагла ў той дзень прыняць Юрыя Уладзіміравіча...

Так я і засталася без апошняй яго кнігі...

*

Паэзія Юркі Голуба яшчэ не раз падорыць крылы тым душам, якія прыхінуцца да яе...

Будзем помніць светлае... Будзем радавацца таму, што было. А можа, яшчэ болей — таму, што будзе. Бо вельмі тонкая мяжа паміж жыццём і вечнасцю! Тым болей, калі жыццё належала таленавітаму майстру, высокаму творцу — Паэту...

## Прэмія «Еўрапейскі паэт свабоды–2024»

Шэсць паэтаў разам з перакладчыкамі трапілі ў фінал літаратурнай прэміі горада Гданьск «European Poet of Freedom-2024». Пераможца будзе абвешчаны вясной у Гданьску. Галоўны прыз — 100 тысяч польскіх злотых для паэта і 20 тысяч злотых перакладчыку.

Лаўрэатамі сталі: Мірэла Іванова (Балгарыя) і перакладчыца Магдалена Пытляк, Дарка Цвіетыч (Харватыя) і перакладчык Мілаш Валігорскі, Моніка Герцэг (Харватыя) і Аляксандра Войташэк, Аня Эрамая (Фінляндыя) і Катажына Саль, Арвіс Вігулс (Латвія) і Пётр Ручынскі, Мірыям Ван Хі (Нідэрланды) і перакладчык Ежы Кох.

Сакратар журы прэміі Анджэй Ягадзіньскі сказаў, што кожны з намінантаў — асоба надзвычай паэтычная, і хаця свабода адыгрывае ў іх вершах найважнейшую ролю, яна сустракаецца ў розных сэнсах і вымярэннях: гэта свабода выказвання і слова, а таксама свабода чалавека і чалавечай супольнасці, свабода іміджу і стылю. «Мы маем справу з тонкай інтымнай гісторыяй пра боль і адзіноту, іншым разам — з прыцішанай лірычнай споведдзю пра чалавечыя пакуты і пачуцці, з надзвычай шчымлівым роздумам пра свабоду пасля трагічных падзей гісторыі і фундаментальных пытанняў аб іх значэнні, — падкрэсліў ён. — Журы, вядома, будзе няпростая праца выбраць лепшага, але чытачам ужо можна паабяцаць шэсць выдатных тамоў паэзіі».

Фіналістаў прэміі выбірае журы ў складзе: Ганна Чэкановіч, Кшыштаф Чыжэўскі (старшыня), Павел Хуэле, Збігнеў Міколэйка, Станіслаў Росек. Арганізатары падкрэслілі, што паэтаў вылучаюць перакладчыкі, дасылаючы ўзоры перакладзеных вершаў.

Пасля абвяшчэння фіналістаў прэміі пачынаецца праца над перакладам вершаў, рэдагаваннем тэкстаў і макетаваннем тамоў, прэм'ера якіх адбудзецца ў Польшчы падчас фестывалю «European Poet of Freedom Award» увесну 2024 года.

У 2022 годзе журы прэміі вынесла беспрэцэдэнтны вердыкт: асобна адзначылі двух аўтараў і іх перакладчыкаў. Гэта ўкраінская паэтка Марыяна Кіяноўская — за кнігу «Бабін Яр. Na voices» у перакладзе Адама Паморскага — і Люльета Лешчанаку з Албаніі за кнігу «Вада і вугаль» у перакладзе Дароты Гарадыскай.

## Прэмія імя Генрыха Гэйнэ

Ад імя нямецкага горада Дзюсельдорф вядомаму ўкраінскаму паэту, празаіку і перакладчыку Юрыю Андруховічу ўручылі прэмію імя Генрыха Гэйнэ (Heirich Heine Preis).

Як вынікае з абгрунтавання рашэння журы, «Юрый Андруховіч піша пра пазіцыю асобы ў гісторыі Цэнтральнай Еўропы. Пачуццё іроніі і гратэску характарызуе яго творчасць у лепшых традыцыях Гэйнэ. Ён гуляе з літаратурнымі формамі і перасякае межы паміж рэальнасцю і фантазіяй. Юрый Андруховіч — гарачы абаронца еўрапейскай ідэі і рэпрэзентуе ідэнтычнасць Украіны як культурнай нацыі. Ён нагадвае Еўропе, што ва Украіне ў першую чаргу абараняюць свабоду і правы чалавека».

Прэмія ў памеры 50 000 еўра была ўручана Юрыю Андруховічу ў снежні на цырымоніі з нагоды 225-годдзя з дня нараджэння Генрыха Гэйнэ.

«З усіх рэлігій гэтага сумніўнага свету толькі свабода бясспрэчная і да сённяшняга дня захоўвае сваю выключную важнасць на фоне няспынных баязлівасці, тэхналагічнага рэлятывізму і фальсіфікацыі рэчаіснасці», — сказаў лаўрэат, прымаючы ўзнагароду. «Разам з Юрыем Андруховічам Дзюсельдорф ушаноўвае аднаго з вядучых пісьменнікаў і інтэлектуалаў постсавецкай Украіны. Дзякуючы сваёй шматграннай творчасці Юрый Андруховіч зноў і зноў пазіцыянуе сябе як крытычны аглядальнік у грамадска-палітычным асяроддзі. Узорнае імкненне да свабоды, заснаванае на яго веры ў еўрапейскую ідэю і правы чалавека ва Украіне — асабліва ў гэтыя часы — больш важнае, чым калі-небудзь», — адзначыў обербургамістр Дзюсельдорфа Штэфан Келер.



Прэмія імя Генрыха Гэйнэ горада Дзюсельдорф была заснавана ў 1972 годзе з нагоды 175-годдзя з дня нараджэння паэта і прысуджаецца асобам, якія ў духу Гэйнэ адстойваюць асноўныя правы чалавека і спрыяюць грамадска-палітычнаму прагрэсу.



Васіль Рудык

## Прэмія імя Руданскага

Усеўкраінскую літаратурна-мастацкую прэмію імя Сцяпана Руданскага за 2022 год атрымалі Васіль Рудык за сатырычны раман «Слуга народа», Віталь Кырныцкі за аўдыяальбом сатыры і гумару «Каго не стала» і Алена Дзячэнка за гумарыстычныя відэасюжэты.

## Міжнародная прэмія імя Фазіля Іскандэра

У намінацыі «Сюжэт існавання. Мастацкая проза» лаўрэатам стаў Аляксандр Меліхаў (Санкт-Пецярбург) за аповесці «Жыццяпіс Мішэля Z», «Сапфіравы альбатрос», «Грыф і мамант». У намінацыі «Формула ружы. Паэзія» — Наталля Ляскоўская (Масква) за кнігу вершаў «Евангельская соль».

У намінацыі «Дрэва дзяцінства. Дзіцячая і падлеткавая літаратура» — два лаўрэаты: Павел Кранёў (Масква) за кнігу «Шалонік» і Вікторыя Татур (Падмаскоўе) за кнігу «Наназаўры».

У намінацыі «Свята ў чаканні свята (Кінасцэнарый і драматургія)» перамагла Наталля Захарава (Масква) за рукапіс п'есы «Доказы кахання. Калядная гісторыя ў двух актах».

Міжнародная прэмія імя Фазіля Іскандэра была заснавана Рускім ПЭН-цэнтрам у жніўні 2016 года. У 2022 годзе яе падтрымаў Прэзідэнцкі фонд культурных ініцыятыў.

## Прэмія імя Бабеля «замарожана»

Сёмы сезон прэміі «Бабель» у 2023 годзе не адбудзецца, і прэмія ўвогуле не будзе ўручацца да заканчэння вайны ва Украіне. Пра гэта паведамілі ў аргкамітэце конкурсу.

Першы сезон прэміі «Бабель» прайшоў у 2017 годзе, і з таго часу яна ўручалася шэсць разоў.

Адэская Міжнародная літаратурная прэмія імя Ісаака Бабеля за апавяданні (навэлы) была заснавана як лагічны працяг праекта па ўвекавечанні памяці і папулярызацыі літаратурнай спадчыны выбітнага пісьменніка. Усталяваны ў Адэсе помнік Ісааку Бабелю і ўзнагарода яго імя былі заклікаsuccessful падтрымаць і ўмацаваць міжнародны статус Адэсы як горада з глыбокімі культурнымі традыцыямі, здольнага да мадэрнізацыі і новага менталітэту. Прэмія прадугледжвала адукацыйны і асветніцкі аспекты і была накіравана на стварэнне новага культурнага кантэксту ў жыцці горада, яна павінна была стаць інавацыйнай творчай пляцоўкай і прэтэндаваць на фармаванне эстэтычных і мастацкіх пераваг сучаснага грамадства.

## 25 тысяч вершаў пра вайну

Міністр культуры і інфармацыйнай палітыкі Украіны Аляксандр Ткачэнка паведаміў у Telegram, што на партале «Паэзія волі» ўжо сабрана 25 тысяч вершаў, а таксама заклікаў украінцаў дзяліцца падобнымі творамі.

«25 тысяч асабістых гісторый у вершах — гэта гісторыі людзей пра тое, як яны перажываюць агрэсіўную вайну Расіі супраць Украіны. Гэта шчырыя споведзі людзей рознага ўзросту і прафесій на розных мовах. Дзеці, вайскоўцы, валанцёры, пажылыя людзі і моладзь — усе тыя, у чые дамы прыйшла вайна», — гаворыцца ў допісе. Пры гэтым А. Ткачэнка заклікаў украінцаў дзяліцца на партале ўласнай творчасцю, «бо мастацтва лечыць, супакойвае боль і смутак».

## Смяротны прысуд іранскаму пісьменніку

Мехдзі Бахман выступіў у красавіку мінулага года на ізраільскім 13 тэлеканале. У інтэрв'ю літаратар напрасіў перакласці адну з яго кніг на іўрыт, паведаміла «The Times of Israel». Ён таксама раскрытыкаваў рэжым у Тэгеране, увядзенне ісламскіх законаў і заклікаў да нармалізацыі адносін з Ізраілем.

Мехдзі Бахман — пісьменнік і ілюстратар, які імкнецца да міжрэлігійнага дыялогу. У апошнія гады ён працаваў з клірыкам-дысідэнтам Масумі Тэгерані над тэкстамі, якія змяшчаюць сімвалы розных рэлігій, і перадаваў іх лідэрам рэлігійных меншасцяў: юдзям, хрысціянам, зараастрыйцам і г.д. Паведамлялася, што пісьменнік быў арыштаваны па абвінавачанні ў «шпіянажы» і прыгавораны рэвалюцыйным судом да расстрэлу.

Паводле звестак апазіцыі, за апошнія дні як мінімум 11 чалавек былі прысуджаныя да смяротнага пакарання за ўдзел у акцыях пратэсту.

## У Расіі павялічылася колькасць «пірацкіх» кніг

За апошнія некалькі месяцаў у Расіі значна вырасла колькасць кантрафактных папяровых кніг, паведамілі «Ведомости» са спасылкай на прэзідэнта выдавецкай групы «Эксмо-АСТ» Алега Новікава.

Часцей за ўсё іх прадаюць у інтэрнэт-крамах электроннага гандлю (маркетплэйсах). Толькі на Wildberries іх выявілі больш за 200: у тым ліку раман Гузэлі Яхінай «Зулейха расплюшчвае вочы» і нон-фікшн бэстсэлер «Думай павольна. Вырашай хутка» Даніэля Канемана.

Кіраўнік продажаў выдавецкай групы «Альпина» Святлана Калеснікава таксама заявіла, што выдавецтва адшукала кантрафактныя копіі бэстсэлераў свайго аўтара Максіма Ільяхава.

Юрысты адзначаюць, што адказнасць за распаўсюд кантрафактных кніг можа класціся як на прадаўца, так і на інтэрнэт-крамы.

Раней прэзідэнт выдавецкай групы «Эксмо-АСТ» Алег Новікаў заявіў, што з-за спынення супрацоўніцтва некаторых замежных пісьменнікаў з расійскімі кніжнымі выдавецтвамі (праз распачатую вайну ва Украіне) недаатрыманая доля продажаў навінак такіх аўтараў складае 7%. Сярод найбольш значных «страчаных» кантрактаў называюцца новыя праекты Джоан Роўлінг, Стывена Кінга і Ю Несбё, замяніць якія будзе складана.

## Адрэстаўраваны Дом-музей Астроўскага

Дом-музей А. М. Астроўскага, які з'яўляецца адным з філіялаў Бахрушынскага музея, — гэта двухпавярховы драўляны будынак у стылі класіцызму. Ён адкрыецца ў сакавіку, калі будзе адзначацца 200-годдзе драматурга.

Музей знаходзіцца на маскоўскай вуліцы Малая Ардынка. Асабняк, у якім у 1823 годзе нарадзіўся і пражыў тры гады будучы драматург Аляксандр Астроўскі, пабудавалі ў 1822 годзе. У 1870—1880-я гады яго перабудоўвалі, у выніку да нашых дзён захаваўся двухпавярховы драўляны будынак на цагляным падмурку.

Над рэстаўрацыяй асабняка працавалі больш за 50 спецыялістаў. Разам з яшчэ некалькімі будынкамі сядзібы дом увойдзе ў склад сучаснага выставачнага комплексу. Акрамя асабняка Аляксандра Астроўскага, да музейнага комплексу адносяцца два жылыя дамы другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама прытулак канца XIX стагоддзя, дзе аднавілі атмасферу купецкай піражковай-чайнай.

Збор музея А. М. Астроўскага налічвае каля 50 тысяч прадметаў. У прыватнасці, гэта дзённікі, запісныя кніжкі і аўтографы драматурга, а таксама лісты Івана Тургенева, Фёдара Дастаеўскага, Мікалая Някрасава, Пятра Чайкоўскага ды іншых дзеячаў культуры.



Фота mos.ru

Дом-музей А. М. Астроўскага

Літаратурная Беларусь

Адрас электроннай пошты: **litaraturnaja.bielarus@gmail.com**

З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: **kamunikat.org і novychas.online.**